


*Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў*

# Рэгіён

ЛІСТАПАД 2015 г. № 8 (58)

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

**Духовный центр при Свято-Троицком храме открыт в Круглом,** сообщает mogilevnews.by.

«Центр духовного образования детей и молодежи» открыт в Круглом при Свято-Троицком православном храме.

Теперь прихожане Центра смогут чаще слушать евангельские чтения. Также при трапезной в скором времени появится кулинарный кружок, где можно обучиться рецептам православной кухни. И еще одно новшество – возрождение одного из древнейших ремесел – ткачества. По словам настоятеля храма протоиерея Геннадия, два настоящих ткацких станка позволят создавать ручники, которые станут украшением и визитной карточкой городского поселка Круглое.

Там же, при новом Центре, открылась выставка могилевских художников «Неизвестное христианство». Их работы можно увидеть до 1 декабря.

**Номинальная начисленная среднемесячная заработная плата** работников Могилевской области в январе-сентябре 2015 г. составила 5 761,4 тыс. рублей, в том числе в сентябре – 5 906,9 тыс. рублей, и уменьшилась по сравнению с августом 2015 г. на 3%, или на 184,8 тыс. рублей.

Реальная заработная плата в январе-сентябре 2015 г. по сравнению с январем-сентябрем 2014 г. уменьшилась на 4,3%, в сентябре 2015 г. по сравнению с августом 2015 г. – на 4,2 %.

Номинальная начисленная заработная плата в сентябре 2015 года в Белыничском районе составила 5 900 116 рублей, Круглянском - 5 641 135 рублей, Шкловском - 5 746 843 рублей.

# БЫЛОГА НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ ШКЛОЎСКАГА РАЙВЫКАНКАМА АДПРАВІЛІ ЗА КРАТЫ

**Шклоўскага «вертыкальшчыка» усё ж адправілі ў турму за махінацыі з жыллём.**




Як паведаміла інфармацыйнае агенцтва БелаПАН, Магілёўскі абласны суд прызнаў вінаватым былога намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама Яўгена Семянкевіча ў злоўжыванні ўладай. Прысуд Яўгену Семянкевічу быў вынесены ў канцы верасня і зараз ужо ўвайшоў у законнае дзеянне. Чыноўнік абвінавачваўся ў карупцыйным злачынстве - махінацыях з жыллём.

Нагадаю паважаным чытачам, што Яўген Семянкевіч у якасці намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама курыраваў пытанні будаўніцтва і камунальнай гаспадаркі. Крымінальная справа ў адносінах да яго была ўзбуджана ў мінулым годзе па частцы 3 артыкула 424 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (злоўжыванне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі).

Па словах жыхароў Шклоўскага раёна, Яўген Семянкевіч паставіў на ўлік без чаргі ў якасці патрабуючай паляпшэння жыллёвых умоў сям'ю сваёй дочкі, якая ўжо мела жыллё ў іншым горадзе. Дзякуючы такой хітрасці гэта сям'я ўзяла ільготны крэдыт і атрымала кватэру яшчэ і ў Шклове.

Пасля ўзбуджэння крымінальнай справы Яўген Семянкевіч прызнаў сваю віну і звярнуўся да прэзідэнта з просьбай аб памілаванні, аднак яна не была задаволеная. Напярэдадні разгляду пытання аб памілаванні кіраўніком краіны летам гэтага года камісія па памілаванні пры

*(Працяг на стар. 4)*






# БЯЛЫНІЦКІ РАЁН: ВЫНІКІ НЕ РАДУЮЦЬ

**У Бялыніцкім раёне падвялі вынікі працы народнай гаспадаркі раёна за 9 месяцаў 2015 года. На жаль, вынікі гэтыя не вельмі добрыя.**




Аб'ём вытворчасці ў сельскагаспадарчых арганізацыях раёна за 9 месяцаў 2015 года ў супаставўных цэнах склаў толькі 85,5% да аналагічнага перыяду года мінулага. Зерня намалацілі на 20,7% менш, чым на 1 кастрычніка 2014 года, рапсу – толькі 32,4% да ўзроўню мінулага года. Бульбу ў той жа "Новай Друці" працягвалі ўбіраць яшчэ і ў кастрычніку пасля надыходу першых маразоў, таму ў гэтым сегменце вынікі падводзіць пакуль рана. Аднак ужо зараз бачна, што і тут раён вялікіх прыбыткаў не атрымае.

Сярэдні надой малака ад каровы ў студзені-верасні 2015 г. склаў 4042 кілаграмы, што на 162 кілаграмы менш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. Малака выраблена 35.9 тыс тон (на 0.7% менш), з іх рэалізавана па ўсіх каналах збыту 32,3 тыс. тон (больш на 1,2%). Менавіта за кошт малака сельскагаспадарчыя прадпрыемствы Бялыніцкага раёна могуць зараз атрымаць хоць нейкія жывыя грошы на першачарговыя патрэбы і выплату заробкаў сваім працаўнікам, бо пасля рэалізацыі "багатага ўраджаю" яны не толькі не разлічыліся з крэдытамі і даўгамі, але нават не забяспечылі сябе неабходнай колькасцю канцэнтратаў.

Праўда, сельскагаспадарчымі арганізацыямі раёна рэалізавана ў гэтым годзе на 25% жывёлы на забой больш, чым у годзе мінулым. Аднак тут радавацца таксама асабліва няма чаму, вытворчасць ялавічыны ў сельгаспрадпрыемствах раёна стратная, таму пра нейкія прыбыткі тут наогул казаць смешна. Да таго ж ужо зараз можна з упэўненасцю казаць пра тое, што рэалізацыя жывёлы на забой у раёне будзе толькі нарастаць, бо сельгаспрадпрыемствы раёна (акрамя СВК "Калгас "Радзіма") папросту не здолелі нарыхтаваць неабходную колькасць кармоў на зімовы стойлавы перыяд. Не хапае не толькі канцэнтратаў, але і травяністых кармоў, таму давядзецца зніжаць пагалоўе жывёлы.

Чэсна кажучы, я не ведаю, як будуць выжываць сельгаспрадпрыемствы раёна (акрамя той жа "Радзімы") гэтай зімой, бо ўжо зараз яны не могуць своечасова выплаціць заробак, заплаціць за выкарыстаную электраэнергію, купіць дызпаліва і бензін для абслугоўвання першапачатковых патрэб. Пра што казаць, калі ў большасці прадпрыемстваў шэраг аб'ектаў адключаныя ад энергазабеспячэння, а паліва для працы механізатарам раздаюць проста "з калёс". Пра заробкі ў сялян я наогул маўчу, бо яны зараз у Бялыніцкім раёне "ніжэй за плінтус", ды і гэтыя капейкі выплочваюць не своечасова.

Вытворчасць прадукцыі прамысловасці ў Бялыніцкім раёне, па дадзеных нашых слаўных

*(Заканчэнне на стар. 7)*

## Регион криминальный

30 октября СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении жителя д. Буровщина, 1971 г.р., который 26 октября в д. Загоряны Круглянского района с территории домовладения ИП, 1964 г.р., похитил рыболовные снасти стоимостью 670 000 руб.

Раскрыто ОУР. Похищенное изъято.

31 октября СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) в отношении неработающей, ранее судимой жительницы д.Старое Село Белыничского района, 1980 г.р., которая в период с 3 по 31 октября в указанной деревне из дачного дома пенсионерки, жительницы г. Могилева, 1949 г.р., путем срыва навесного замка похитила продукты питания, три бутылки водки, секатор, ковер на сумму 1 000 000 руб. Задержана в порядке ст. 108 УПК. Раскрыто УИМ.

2 ноября в г. Шклове в своем доме по ул. Янки Купалы с колото-резанным ранением обнаружен труп неработавшего, ранее неоднократно судимого мужчины, 1970 г.р. 2 ноября Шкловским РО СК возбуждено у/д по ст. 139 ч.1 УК (Убийство). УУР, ОУР в ходе проведения ОРМ установлено, что преступление совершил неработающий, ранее судимый местный житель, 1965 г.р. Задержан в порядке ст. 108 УПК,.

29 октября СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) по заявлению пенсионерки, жительницы д. Личинка Белыничского района, 1931 г.р., о том, что 29 октября из ее дома похищены 101 000 руб., продукты питания на сумму 501 000 руб. УИМ установлено, что преступление совершил неработающий односельчанин, 1993 г.р., ранее судимый по ст. 205 УК. Задержан в порядке ст. 108 УПК. Похищенное изъято, сообщает uvd.mogilev.by.

## Анекдот дня

— Алло, скорая?! Приезжайте, тут людям плохо!
— Адрес?
— Беларусь.

# ВМЕСТО ОБРАЗЦОВО-ПОКАЗАТЕЛЬНОГО ПРЕДПРИЯТИЯ В ШКЛОВЕ ПОЯВИТСЯ КОМПАНИЯ-БАНКРОТ?

**Путь модернизации привел в тупик.**

Александр Лукашенко в очередной раз потребовал отдачи от модернизации деревообрабатывающей отрасли.

— Надеюсь, на этом уровне подобный разговор последний. Мы вложили немалые средства. И какой результат? И что будем делать дальше? – спросил глава государства своих подчиненных на совещании, посвященном выполнению его поручений по развитию базовых организаций деревообработки.

Примечательно, что сам Александр Лукашенко с двух попыток так и не смог убедить иностранных инвесторов, обосновавшихся Шклове, вложить деньги в новые технологии. Речь идет о деревообрабатывающем заводе с иностранным капиталом: ИООО «Шклов Форест Лтд».

Это предприятие находится в шаге от банкротства: в октябре 2015 года по решению Экономического суда Могилевской области на заводе введено конкурсное производство.

Как сказано в документах дела о банкротстве, соответствующее заявление в суд на неплатежеспособного клиента подал «БПС-Сбербанк».

История ИООО «Шклов Форест Лтд» иллюстрирует ситуацию, которая в целом характерна сегодня для белорусской деревообработки, проигрывающей в конкурентной борьбе на рынке. Хотя размещение мощностей на родине Лукашенко само по себе предопределило особый статус предприятия у местных и даже республиканских властей.

Учредителями компании «Шклов Форест Лтд», созданной в 2002 году, стали американская фирма «Командер Кэпитал ЛЛК» и крупная латвийская лесозаготовительная и трейдерская компания Lindeks. На тот момент это был серьезный бизнес, работавший в основном с сырой древесиной. На пике его развития годовой объем продаж составлял 200 тыс. куб. м. древесины на сумму 40 млн долларов.




Беларусь привлекла зарубежных инвесторов возможностью заготавливать и экспортировать усыхающий ельник. Потом они начали производить в Шклове пиломатериалы.

Уже при первом посещении «Шклов Фореста» в 2005 году Александр Лукашенко потребовал «углубить переработку древесины».

**Дорога в никуда**

В декабре 2012 года глава государства совершил незапланированный визит на этот завод.

— Мы здесь создадим образцово-показательное предприятие и покажем тот путь, по которому надо модернизировать предприятие низшего уровня, — обещал глава белорусского государства.

Тогда же он поручил до 7 ноября 2013 года установить новое оборудование для выпуска продукции с большей глубиной переработки.

— Напрягайте, вызывайте собственника-частника этого и делайте все, что надо. Если он откажется и не может — делайте сами, — приказал Александр Лукашенко чиновникам.

Но частник счел нецелесообразным дополнительно вкладывать деньги в шкловское предприятие.

В начале прошлого года тогдашний глава Администрации президента Андрей Кобяков поручил Могилевскому облисполкому найти новых инвесторов.

Пока поиски не увенчались успехом. А компания «Шклов Форест ЛТД», скорее всего, будет признана банкротом, ее имущество пойдет с молотка.

*Николай Адашкевич, "Завтра твоей страны"*

## Багданкевіч: Марудная дэвальвацыя працягнецца

Былы кіраўнік Нацбанка Беларусі Станіслаў Багданкевіч патлумачыў Радыё “Рацыя” сёняшнюю стабільнасць беларускага рубля і спрагназаваў, што з нацыянальнай валютай будзе далей.

Сярэдні курс наяўнага даляра з пачатку года вырас на 24%, але ў мінулым месяцы знізіўся на 1,4%.

Станіслаў Багданкевіч: Беларускі рубель зараз больш-менш стабілізаваўся. Гэта, на мой погляд, у асноўным звязана з тым, што ў нас знешнегадлёвы баланс збалансаваўся. Я маю на ўвазе, што дэфіцыт плацёжнага балансу не вельмі вялікі. Раней быў недзе 7 адсоткаў, а зараз – каля двух. Гэта звязана з тым, што ўлады дабіліся адтэрміноўкі пагашэння знешніх даўгоў Расеі і ідзе абнішчэнне насельніцтва. Імпарт скарачаецца, грашовая рублёвая маса выкарыстоўваецца на ўнутранае спажыванне, не

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# БЫЛОГА НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ ШКЛОЎСКАГА РАЙВЫКАНКАМА АДПРАВІЛІ ЗА КРАТЫ

(Працяг. Пач. на стар. 1)

прэзідэнце Рэспублікі Беларусь прыняла рашэнне рэкамендаваць Аляксандру Лукашэнка адмовіць Яўгену Семянкевічу ў памілаванні, бо былы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама падрываў аўтарытэт улады.

Як не дзіўна, Аляксандр Рыгоравіч прыслухаўся да рэкамендацыі камісіі па памілаванні, хоць спадар Семянкевіч вельмі даўно асабіста добра знаёмы з кіраўніком краіны. Яшчэ ў далёкім 1980 годзе яны разам гулялі ў адной футбольнай камандзе, пастаянна падтрымлівалі добрыя стасункі і пазней.




Магілёўскі аблсуд, разгледзеўшы справу Семянкевіча паводле ч.3 арт.424 Крымінальнага кодэкса, прызначыў яму пакаранне ў выглядзе трох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем у калоніі ўзмоцненага рэжыму, канфіскацыю маёмасці, пазбаўленне цягам пяці гадоў права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых абавязкаў.

«Была ўжытая амністыя да яго, тэрмін пакарання зніжаны на адзін год», - адзначылі ў Магілёўскім абласным судзе. Дзякуючы амністыі, чыноўнік правядзе ў калоніі не больш за два гады.

Як мы ўжо паведамлялі ў мінулым нумары "Рэгіёна", зараз у Шклоўскім раёне наспявае чарговы карупцыйны скандал. У прыватнасці, мы пісалі пра тое, што пракуратура Магілёўскай вобласці ўзбудзіла крымінальную справу ў адносінах дырэктара аднаго з камунальных прадпрыемстваў горада Шклова. Гэты дырэктар падазраецца ў тым, што ў выніку яго дзеянняў эканамічна неабгрунтаваныя затраты яго прадпрыемства былі паўлічаны больш чым на 1 мільярд рублёў, што пацягнула цяжкія наступствы ў выглядзе нанясення стратаў дадзенаму прадпрыемству дзяржаўнай формы ўласнасці ў асабліва буйным памеры і істотную шкоду дзяржаўным інтарэсам. Дырэктар, у парушэнне ўстаноўленай на прадпрыемстве працэдуры заключэння дамоваў, у красавіку 2015 года заключыў шэраг дамоў куплі-продажу з камерцыйнай арганізацыяй з горада Мінска аб набыцці таварна-матэрыяльных каштоўнасцей на агульную суму больш за 1,3 млрд. рублёў. Пасля гэтага камерцыйная фірма набыла ўсе абумоўленыя дамовамі таварна-матэрыяльныя каштоўнасці за 293,4 мільёны рублёў, а на адрас шклоўскага прадпрыемства яны былі пастаўлены ўжо па цане 1,3 млрд. рублёў.

Што скажаш, нядрэнна працавалася гэтым камерсантам – прама з паветра здолелі "наварыць" больш за мільярд рублёў…

Зараз мы можам назваць прозвішча падазраванага ў здзяйсненні карупцыйнага злачынства чыноўніка – гэта дырэктар УКП "Жылкамгас" Аляксандр Сямёнчанка. Аляксандр Васільевіч пакуль знаходзіцца на волі, па-ранейшаму працуе дырэктарам, і лічыць сябе ні ў чым не вінаватым.

У інтэрв'ю інфармацыйнаму агенцтву БелаПАН дырэктар УКП "Шклоўскі жылкамгас" заявіў: "Я здзіўлены ўсяму адбываючамуся. Імкнуліся зняць скаргі людзей, на карысць ім, а атрымліваецца, што я вораг народа".

Аляксандр Сямёнчанка лічыць несправядлівымі падазрэнні ў тым, што ён нібыта складаў дамовы на пастаўку неабходных запчастак для камунальнай тэхнікі, "ігнаруючы працэдуру распрацоўкі, візавання, падпісання, рэгістрацыі і захоўвання дамоў, прадугледжаную на прадпрыемстве".

"Я што, не мог дамовы заключачаць? Гэта наогул абсурд. Гэта мае прамыя функцыянальныя абавязкі, статутам вызначаныя і кантрактам – забяспечыць бесперабойную работу прадпрыемства. Што такое бесперабойная работа – гэта зняццё нагрузкі скаргаў жыхароў горада і Шклоўскага раёна", - заявіў дырэктар шклоўскага "Жылкамгаса" у інтэрв'ю БелаПАН. Таксама Аляксандр Сямёнчанка выказаў спадзяванне, што ў праваахоўных органах змогуць правільна разабрацца ў сітуацыі.

Зараз справа шклоўкага дырэктара знаходзіцца ў Упраўленні Следчага камтэта па Магілёўскай вобласці. Абвінавачванні падазраванаму пакуль не прад'яўлены і мера спынення не выбіралася, паведамілі БелаПАН у следчых органах.

Ну што тут скажаш, пажывём – пабачым, як будуць развівацца падзеі далей. Неабходна адзначыць, што шклоўскі

(Заканчэнне на стар. 5)

# БЫЛОГА НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ ШКЛОЎСКАГА РАЙВЫКАНКАМА АДПРАВІЛІ ЗА КРАТЫ

*(Закан. Пачатак на стар. 1, 4)*

жылкамгас з'яўляецца нейкім зачараваным месцам для яго кіраўнікоў – большасць з іх заканчваюць сваю дзейнасць у турме. І распачалася гэтая сумная традыцыя ў Шклове пасля звальнення па палітычных матывах з пасады дырэктара "Шклоўскага жылкамгаса" сябра Партыі БНФ Рыгора Кастусёва на пачатку 2000-х гадоў. Практычна ўсе яго наступнікі сыходзілі з сваёй пасады альбо за краты, альбо з шумным скандалам і значным паніжэннем. Жыхары Шклоўшчыны жартуюць, што Рыгор Андрэевіч нейкім чынам "зачараваў" сваё былое месца працы.

Сам жа Рыгор Кастусёў кажа пра іншае - у шклоўскім жылкамгасе заўсёды "круцяцца" вельмі значныя сумы бюджэтных грошай і ў недобрасумленных кіраўнікоў перыядычна ўзнікае жаданне іх крыху адшчыкнуць для сябе, любімых. Аднак чаму кіраўніцтва Шклоўскага раёна пастаянна прызначае на пасаду дырэктара КУП "Шклоўскі жылкамгас" менавіта такіх людзей, гэтага Рыгор Кастусёў зразумець не можа. Такая своеасаблівая кадравая палітыка ў Шклоўскім раёне здзіўляе яго яшчэ і таму, што пасаду галоўнага інспектара, памочніка прэзідэнта па Магілёўскай вобласці займае былы старшыня Шклоўскага райвыканкама Генадзь Лаўранкоў, які добра ведае ўсе мясцовыя кадры. І менавіта праз спадара Лаўранкова праходзяць усе кадравыя прызначэнні ў нашай Магілёўскай вобласці.

Некаторыя з жыхароў Шклоўскага раёна таксама вельмі здзіўляюцца таму факту, што шматлікія гучныя карупцыйныя крымінальныя справы, якія набылі шырокі розгалас у нашай краіне, ніякім чынам не закранаюць старшыню Шклоўскага райвыканкама Аляксандра Бойка. Пагадзіцеся, паважаныя чытачы, неяк дзіўна выглядае, калі саджаюць двух намеснікаў старшыні райвыканкама, некалькі дырэктараў таго ж жылкамгаса і іншых кіраўнікоў, адхіляюць ад пасады за крымінальнае злачынства кіруючага справамі райвыканкама, а іх непасрэдны начальнік пры гэтым застаецца "белым і пухнатым". Безумоўна, Аляксандр Анатольевіч мог не ведаць пра крымінальныя таленты сваіх падначаленых, але, прабачце, які ён тады кіраўнік, калі прызначае на пасады будучых крымінальнікаў?

Я ўжо неяк пісаў, што ў мяне асабіста складваецца ўражанне, што шклоўская зямля нібыта прыцягвае карупцыянераў самых розных узроўняў. Яно і не дзіўна, бо менавіта ў "малую радзіму" Аляксандра Рыгоравіча ў нашай Магілёўскай вобласці ўкладваецца найбольшая колькасць грошай з бюджэтаў розных узроўняў.

Так, напрыканцы мінулага 2014 года да 14 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці за аферу з закупкай племянной жывёлы для патрэб гаспадарак раёна быў асуджаны былы першы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Дзмітрый Мінянкоў.

Ужо ў гэтым годзе пракуратурай ўзбуджана крымінальная справа супраць былога намесніка дырэктара РУП "Завод газетнай паперы" у Шклове, які падазраецца ў перавышэнні ўлады альбо службовых паўнамоцтваў. "Дзякуючы" дзеянням намесніка дырэктара прадпрыемства недаатрымала 280 тысяч еўра.

Кrыманальная справа была ўзбуджалася не так даўно і ў адносінах да былой кіруючай справамі Шклоўскага райвыканкама Людмілы Глякавай. Супраць былой райвыканкамаўскай чыноўніцы высоўвалася абвінавачванне ў крадзяжы шляхам злоўжывання ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі. Людміла Глякавава падазравалася ў крадзяжы 29 мільёнаў рублёў. Пэўны час былая шклоўская "вертыкальшчыца" нават утрымлівалася пад вартай, аднак пазней накіравала прашэнне аб памілаванне на імя Аляксандра Лукашэнкі і, нібыта, кіраўнік краіны яе вызваліў ад адказнасці.




Толькі ў перыяд з 2010 г. па 2014 г. у Шклоўскім раёне выкрыты факты крадзяжу чыноўнікамі грашовых сродкаў на суму больш 70 мільярдаў рублёў, з якіх 40 мільярдаў так і не павернуты бюджэту і суб'ектам гаспадарання.

Між тым менавіта Шклоўскі раён лічыцца адным з лепшых у нашай Магілёўскай вобласці. Цікава, што ж тады адбываецца ў больш горшых раёнах…

***Іван Барысаў***

## Пять тысяч человек считаются безработными в Могилевской области

В экономике Могилевской области в сентябре этого года было занято 467,7 тысяч человек, что на 1,6% меньше, чем в сентябре прошлого года.

По данным комитета по труду, занятости и соцзащите Могилевского облисполкома, численность безработных, зарегистрированных в органах по труду, занятости и социальной защите, на конец сентября этого года составила 5 тысяч человек, что в 1,8 раза больше, чем за соответствующий период прошлого года.

Уровень зарегистрированной безработицы на конец сентября составил 1,1% от экономически активного населения.

# КРУГЛАЕ: КОЛЬКІ МОЖНА “АПУСКАЦЬ” ЛЮДЗЕЙ?

**У Круглянскім раёне 27 кастрычніка прайшоў чарговы “Дзень безаплатнай працы” на працоўных месцах. Згодна рашэння Круглянскага райвыканкама, усе працаўнікі раёна абавязаны пералічыць заробленыя ў гэты дзень грошы на адмысловы рахунак раённага выканаўчага камітэта.**

Раённае газета “Сельскае жыццё паведаміла, што райвыканкам прыняў рашэнне правесці ў Круглянскім раёне Дзень безаплатнай працы “па прапанове шэрагу мясцовых працоўных калектываў у мэтах прыцягнення грашовых сродкаў для выканання работ па добраўпарадкаванню, бягучаму рамонту аўтапаркоўкі, рамонту будынка дзіцячай кансультацыі райбальніцы, набыцця мэблі для дзіцячай кансультацыі УАЗ “Круглянская раённая бальніца”.

Арганізацыям раёна рэкамендавана да 20 лістапада пералічыць грашовыя сродкі, заробленыя ў Дзень безаплатнай працы на працоўных месцах, у добраахвотным парадку на пазабюджэтны рахунак Круглянскага раённага выканаўчага камітэта.

Карэспандэнт газеты “Рэгіён”, які наведаў Круглае пасля правядзення “Дня безаплатнай працы”, так і не здолеў знайсці хоць аднаго прадстаўніка “шэрагу мясцовых працоўных калектываў”, якія ініцыявалі правядзенне гэтага добраааахвотнага мерапрыемства.

Наадварот, жыхары Круглянскага раёна выказвалі сваё адмоўнае стаўленне да чарговай ініцыятывы мясцовых чыноўнікаў, якія прызвычаіліся вырашаць свае праблемы за кошт простых людзей, праводзячы шматлікія суботнікі і “дні безаплатнай працы” на працоўных месцах. У гэтым годзе ў Круглым восенню праходзілі абласныя “Дажынкі” і ў перыяд да іх правядзення суботнікі ў раёне праводзіліся ледзь не кожны месяц. Таксама 25 лютага 2015 г. у Круглянскім быў праведзены “Дзень безаплатнай працы на працоўных месцах” згодна рашэння Круглянскага райвыканкама ў мэтах прыцягнення грашовых сродкаў для выканання работ па добраўпарадкаванні г. п. Круглае і ў сувязі з правядзеннем абласнога фестываля-кірмаша працаўнікоў вёскі “Дажынкі – 2015”, “па прапанове працоўных калектываў”. Тады Круглянскі райвыканкам таксама рэкамендаваў арганізацыям, прадпрыемствам і ўстановам да 10 сакавіка 2015 года пералічыць грашовыя сродкі, заробленыя ў Дзень безаплатнай працы на працоўных месцах, “у дабраахвотным парадку на пазабюджэтны рахунак Круглянскага раённага выканаўчага камітэта, у межах сум, згодна дадатку”.

Жыхары Круглянскага раёна не разумеюць, чаму, асвоіўшы працьму грошай з дзяржбюджэту на правядзенне “Дажынак”, круглянскія чыноўнікі так і не змаглі давесці да патрэбнага ладу невялікі раён. Між тым у Круглае працягваюць рэгулярна прывозіць дэлегацыі з розных рэгіёнаў Магілёўшчыны, каб паказаць, як патрэбна наводзіць добраўпарадкаванне ў асобна ўзятым раёне.

У Круглянскім раёне за апошнія гады перасталі працаваць льнозавод, маслазавод, хлебзавод, райспажыўсаюз, сельгасхімія, Ракушыцкая птушкафабрыка, цагляны завод, Круглянская школа-інтэрнат, рэарганізаваны шэраг калгасаў і саўгасаў. Адзінае прадпрыемства ў райцэнтры, якое раней стабільна працавала - мясцовае будаўнічае ПМК -266, - зараз перажывае вялікія цяжкасці ў сувязі з адсутнасцю патрэбнай колькасці замоваў на будаўніцтва.

Згодна інфармацыі круглянскіх статыстыкаў, намінальная налічаная заработная плата працаўнікоў раёна ў студзені-верасні 2015 г. склала 5 474 тыс. рублёў, у тым ліку ў верасні – 5 641,1 тыс. рублёў, і паменшылась у параўнанні з жніўнем 2015 г. на 4,8%, альбо на 287,4 тыс. рублёў. Фактычна ж шмат хто з жыхароў Круглянскага раёна, асабліва ў сельскай мясцовасці, атрымлівае заробак, які ледзь перавышае




два мільёны рублёў. Пры гэтым людзі вымушаны яшчэ і цярпець рэгулярныя паборы з боку чыноўнікаў, знайсці нейкае новае працоўнае месца ў Круглянскім раёне вельмі цяжка.

Тыя ж статыстыкі паведамляюць, што ў жніўні 2015 г. у эканоміцы Круглянскага раёна было занята 5,9 тыс чалавек, пры тым, што колькасць насельніцтва раёна на 1 кастрычніка 2015 г. складала 14,3 тыс. чалавек. Узровень зарэгістраванага беспрацоўя на канец верасня ў раёне склаў толькі 0,6% ад эканамічна актыўнага насельніцтва (на канец верасня 2014 г – 0,3%), затое колькасць так званых “дармаедаў” (эканамічна неактыўнага насельніцтва з ліку людзей працаздольнага ўзросту) тут проста зашкальвае. Годнай працы для людзей у Круглянскім раёне папросту няма.

Мясцовыя жыхары і прадстаўнікі суседніх раёнаў Магілёўшчыны стварылі адмысловую грамадскую ініцыятыву, якая паспрабуе распрацаваць адмысловую «Стратэгію развіцця» Круглянщчыны да 2030-га года. Кандыдат эканамічных навук Пётр Мігурскі, які быў арганізатарам стварэння грамадскай ініцыятывы, адзначае, што гэта стратэгія

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# БЯЛЫНІЦКІ РАЁН: ВЫНІКІ НЕ РАДУЮЦЬ

*(Заканч. Пачатак на стар. 2)*

статыстыкаў, нібыта дэманструе нейкі тэмп росту на 110,9% у параўнанні з мінулым годам. Нават ганарыцца хочацца небывалымі поспехамі працаўнікоў “Жылкамгаса”, ААТ “Бытпаслугі” і ветсанутыльзавода, бо менавіта гэтыя прадпрыемствы і складаюць прамысловасць Бялынiччыны. Праўда, калі крыху пачынаеш аналізаваць лічбы, гэта імкненне некуды знікае. Калі прыбраць у слаўных працаўнікоў жылкамгаса (а складваецца ўражанне, што ў гэтай арганізацыі хутка будуць працаваць амаль усе бялынічане) выдзяляемыя дзяржаўныя датыцыі і прэферэнцыі, то гэта арганізацыя будзе адчуваць сябе горш за нашыя сельгаспрадпрыемствы. Ветсанутыльзавод, у рэканструкцыю якога за апошнія гады ўбухана процьма грошай, наогул знізіў аб’ём вытворчасці ў параўнанні з мінулым годам. Дарэчы, як і заробкі сваім працаўнікам.

За 9 месяцаў інвестыцыі ў асноўны капітал склалі ў супастаўных цэнах 90,6% да ўзроўню адпаведнага перыяда мінулага года, аб’ём падрадных работ па будаўніцтву – 83,9%. Калі казаць прасцей, то зараз у будаўнічых арганізацый нашага раёна проста няма патрэбнай колькасці замоў на будаўніцтва. Таму ўсе ПМК Бялыніцкага раёна скарачаюць заробкі сваім працаўнікам і адмаўляюць у прыёме на працу жадаючым уладкавацца ў гэтыя арганізацыі.

Рознічны тавараабарот Бялыніцкага раёна за 9 месяцаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года павялічыўся ў супастаўных цэнах на 1,1%. Здаецца, добра, аднак ёсць невялікі нюанс – у структуры рознічнага тавараабароту арганізацый гандлю раёна на долю харчовых тавараў прыходзіцца 67,5%. Між тым праклятыя буржуінскія эканамісты (і не толькі буржуінскія) даўно вызначылі, што чым бяднейшае насельніцтва, тым больш яно затрачвае грошай з уласных даходаў на набыццё прадуктаў харчавання. Зразумела, што бялынічане набываюць прамысловыя тавары не толькі ў нашым раёне, аднак з прыведзеных дадзеных таксама бачна, што да катэгорыі забяспечаных жыхароў раёна аднесці вельмі цяжка. Ну і што тут скажаш, калі ў шэрагу крамаў раёна, і не толькі Бялыніцкага райспажыўтаварыства, людзі зноў пачалі набываць прадукты ў доўг(!) пад запіс у адмысловы сшытак. І гэта ў “квітнеючай” Беларусі, пра якую нам так шмат распавядалі напярэдадні апошніх прэзідэнцкіх выбараў.

Статыстыкі справаздачацца, што за студзень-верасень 2015 г. рэнтабельнасць продажаў забяспечылі ўсе арганізацыі раёна, хоць па раёну яна склала 4,4% супраць 6% леташніх, а рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі, тавараў, работ, паслуг – 5,3% супраць 7,2%. Да таго ж і чысты прыбытак арганізацый раёна знізіўся на 12,4% у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Думаю, што тут сваё прафесійнае майстэрства ў працы з лічбамі для атрымання патрэбнага выніку проста прадэманстравалі эканамісты шэрагу прадпрыемстваў і арганізацый, бо ў многіх арганізацыях раёна пра нейкую рэнтабельнасць казаць цяжка.

Ну а найбольш ярка характэрызуе сапраўдны стан эканомікі Бялыніцкага раёна намінальная налічаная сярэдняя заработная плата, якая ў верасні 2015 г., па дадзеных нашых мудрых статыстыкаў, склала 5 900,1 тыс. рублёў і паменшылася ў параўнанні з жніўнем 2015 г. на 273,5 тыс. рублёў, альбо на 4,4%. Рэальная заработная плата ў студзені-верасні 2015 г. склала толькі 97,6% да адпаведнага перыяду мінулага.




Паверце мне, пісаць можна яшчэ вельмі шмат, аднак не хачу вас, паважаныя чытачы, больш загружаць сумнымі лічбамі. Думаю, што вы і самі выдатна бачыце, што наперадзе ў Бялыніцкага раёна і яго жыхароў перспектывы не вельмі вясёлкавыя…

***Сяргей Семяновіч***

## Круглае: колькі можна “апускаць” людзей?

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

дапаможа Круглянскаму раёну выйсці з крызісу.

Зараз сябры грамадскай ініцыятывы праводзяць адмысловае анкетаванне жыхароў Круглянскага раёна, как вызначыць праблемы, якія найбольш іх хвалююць . З вынікамі даследвання актывісты плануюць азнаёміць кіраўніцтва Круглянскага раёна і Магілёўскай вобласці.

***Барыс Вырвіч***

## Багданкевіч: Марудная дэвальвацыя працягнецца

*(Заканч. Пачатак на стар. 3)*

хапае грошай на куплю валюты. Ідзе скарачэнне накапленняў. Народ з-за нізкіх заробкаў і пенсій і высокіх коштаў вымушаны праядаць свае зберажэнні.

РР: Ці працягнецца марудная дэвальвацыя?

– Думаю, што працягнецца, бо ў эканоміцы не адбываецца ніякіх станоўчых момантаў. Мы бачым там адны мінусы. Таму дэвальвацыя можа і не будзе рэзкай, але паўзучая застанецца. Будзе і інфляцыя, і дэвальвацыя. На мой погляд, да канца году даляр будзе каштаваць у раёне 18 тысяч рублёў.

– А якія прагнозы можна зрабіць на наступны год?

– Тут рана нешта казаць. Трэба пачакаць, якія планы і праграмы ўлады збіраюцца агучыць на Усебеларускім сходзе.

Раней Станіслаў Багданкевіч выказаўся супраць таго, каб Беларусь брала чарговыя крэдыты для рэфінансавання старых даўгоў.

## Беларусь за пятилетку вбухала в село $43,8 млрд.

**Финансирование госпрограмм агропромышленного комплекса в 2011-2015 годах обошлось Беларуси в Br410 трлн. или $43,8 млрд.**

"Финансирование государственных программ АПК за 2011-2015 годы составило Br410 трлн, или $43,8 млрд. Из них 69% - собственные средства предприятий", - сказал 30 октября спикер верхней палаты парламента Мясникович на совместном заседании двух палат парламента.

Что такое «собственные средства предприятий», белорусы хорошо знают по указам о предоставлении кредитов на посевную и битву за урожай с последующей компенсацией процентов, бюджетном рефинансировании т.д., а еще лучше на собственной шкуре ощущают после очередной девальвации или корректировки курса белорусского рубля.

В свою очередь, вице-премьер Михаил Русый одним из достижений белорусского села назвал двукратный за последние 10 лет рост продаж продуктов питания в торговых сетях.

В чем тут заслуга села, понять сложно, ибо белорусы вряд ли стали есть в 2 раза больше, а население страны не выросло на последние 10 лет. Приведенный показатель говорит лишь о том, что в 2 раза больше продуктов стало продаваться через магазины, а не вывозиться из села или импортироваться в страну в сумках, баулах и багажниках авто. И в этом заслуга не села вбуханными в него миллиардами долларов, а небольшая конкуренция на зарождающемся рынке торговых сетей.

Известный белорусский экономист Ярослав Романчук считает, что ни одна отраслевая организованная группировка не нанесла Беларуси такой ущерб, как АПК (агропромышленный комплекс).

## ИСТОРИКО-ДЕТЕКТИВНЫЙ РОМАН БЫХОВЧАНИНА СЕРГЕЯ АНТОНОВА «ЛОСКУТНЫЕ ЗВЕЗДЫ» ОПУБЛИКОВАН В ИЗРАИЛЕ



*Сергей Антонов*

Новый роман Сергея Антонова «Лоскутные звезды» опубликован в русскоязычном еженедельнике «Секрет» (Израиль). Произведение печаталось по главам с продолжением в нескольких номерах издания. Параллельно публикации появлялись на интернет-портале «ИсраГео».

Сергей Антонов, писатель из Быхова, известный своими фантастическими романами о постядерной Москве в цикле «Вселенная метро 2033», на этот раз работал в жанре исторического детектива.

Книга «Лоскутные звезды» повествует о событиях 1941 года в Быхове, когда фашистскими оккупантами были уничтожены местные евреи, составлявшие половину населения райцентра.

В «Лоскутных звездах» - две сюжетные линии, одна из которых посвящена кровавым событиям на оккупированной гитлеровцами белорусской земле, а другая рассказывает о тайнах, касающихся массового истребления евреев Быховщины, которые раскрываются лишь в наше время.Основным местом описываемых в книге событий является Быховский замок, в котором в начале войны гитлеровцы создали еврейское гетто.

- Эта история хоть и основана на реальных событиях, не претендует на историческую достоверность и должна рассматриваться исключительно как художественное произведение, - отмечается в авторском предисловии романа. - Это мой личный взгляд на Холокост и отдельную его страницу, трагедию быховских евреев. Известный философ сказал, что о память о Холокосте необходима, чтобы наши дети никогда не были жертвам, палачами или равнодушными наблюдателями. Я написал эту книгу, чтобы не оказаться в стороне и не стать равнодушным наблюдателем.

Сейчас автор пытается собрать средства для издания романа «Лоскутные звезды» в Беларуси. По мнению крупных московских издательств, с которыми обычно сотрудничает писатель, с кассовой точки зрения книга коммерческих перспектив не имеет. Поэтому автор рассчитывает на помощь спонсоров. По предварительным расчетам, издание 500 экземпляров книги в типографии обойдется в 40 миллионов рублей.

- Я уверен, что найду людей, которым небезразлична тема Холокоста в Беларуси, - говорит автор романа «Лоскутные звезды». - Считаю, издание книги послужит популяризации исторических памятников Быховщины – замка, синагоги и еврейской начальной религиозной школы в деревне Сапежинка.

***Дмитрий Лепейко, ИА “Могилёвские ведомости”***

### Анекдот дня

И жили они долго и счастливо, потому что так и не познакомились.

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 05.11.2015 г. у 10 -00.